ныя ўрадавымі заказамі на рамонт табору (— затое варшаўскія трамваі купляюць вагоны ў Італіі і Бэльгіі!).

У межах сернічкавае прамысловасьці мы зусім пабіты. Швэды выкупілі фабрыкі сернічкаў і так унармавалі выраб сернікаў, што заграніцай гэты танны польскі прадукт зусім ня шкодзе загранічным фабрыкам.

Дрэўная прамысловасьць — з прычыны правознае платы на чыгунках, перамены агульна-эўрапэйскае кон'юнктуры і радавае канкурэнцыі,—так сама ня можа значна падтрымліваць польскі тарговы балянс.

Найважнейшая ў жыцьці новачаснае дзяржавы так-званая цяжкая мэталюргічная прамысловасьць у нас (у Польшчы) замірае, а творыцца цяпер у Эўропе нямецка-францускі мэталюргічны трэст (саюз прамыслоўцаў), які, пэўне-ж, праглыне нашу (польскую) прамысловасьць і будзе імкнуцца запыніць польскую прамысловасьць, а прынамся ўвагнаць яе ў рамкі краёвага рынку.

Маем магутную ткацкую прамысловасьць. Але баваўнянае сыр'ё—прывознае, а воўны пры нашай зямельнай рэформе (—ну, да яе йшчэ далёка!) ў вялікшай меры вытвараць ня будзем. Да—таго-ж дарагоўля крэдыту, работніка (?!) і транспарту — такая, што йшчэ шмат вады сплыве ў Вісьле, пакуль у гэтай галіне прамысловасьці адбудзецца істотная і глыбокая паправа.

Пры гэткім кароткім аглядзе стану нашае прамысловасьці дадамо йшчэ, што цэлыя галіны прамысловасьці знаходзяцца ў нас дагэтуль у пялёнках, і што заграніца дарогай тарговых трактатаў (Нямеччына, Аўстрыя і інш.) стараюцца не дапусьціць, прыкладам, да разьвіцьця (ў Польшчы) мэталёва-мэханічнага промыслу, электратэхнічнага, вырабу цацак, аўтамабіляў, шоўку і т. п.,— дадайма, урэшце, што зямляробская прамысловасьць і ператворчая (фрукты, мясныя і рыбныя кансэрвы і т. п.) блізу ня істнуе, раўнуючы, прыкладам, з такой Чэхіяй, — і тады пабачым, як запраўды выглядаюць труднасьці нашае прамысловасьці.

Дык ня дзіва, што барацьба з Нямеччынай мае для Польшчы ня гэтулькі ваеннае значэньне, сколькі—эканамічна-прамысловае. І ў гэтым — трагічная немагчымасьць наладзіць добрыя адносіны паміж Польшчай і Нямеччынай....

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Новыя рэвэляцыі віцэ-прэм'ера Тугутта.

Трэба шчыра падзякаваць супрацоўніку „Robotnika“ за тое, што ён, нават пасьля усіх, здавалася, ужо зусім ясных заяваў і прамоваў міністра Тугутта ў Вільні і ў Варшаве, зьвярнуўся да яго яшчэ раз і выясьніў даканца сучаснае становішча ўраду, адносна да „крэсавай справы“, а перад усім—да так званых Грабска-Тугуттаўскіх законаў аб мовах „крэсавых“ меншасьцяў.

Зьмест гэтых новых рэвэляцыяў новага „ўсеўладнага і паўнамоцнага міністра Крэсаў і меншасьцяў“ у Польшчы мы павінны падаць да ведама ўсяго беларускага грамадзянства.

На запытаньне, ці палепшыліся адносіны на „Крэсах“ у выніку працы п. міністра, апошні, усьміхаючыся, адказаў, што „палажэньне на „Крэсах“ палепшылася незалежна ад яго, міністра, дзеяльнасьці—дзеля марозаў і сьнегу, якія ўтрудняюць бандытам напады“... Запраўднай папраўы можна спадзявацца яшчэ ня скора, хаця ўсе меры ўраду маюць мэтай якраз найскарэйшую паправу...

На запытаньне аб уражаньнях, якія п. міністар вывез з Вільні, п. Тугутт вельмі слушна адказаў, што ў значнай меры польская Вільня і яе настроі зусім не зьяўляюцца „адпаведным баромэтрам для дасьледаў аб ступені бясьпечнасьці на Крэсах“...

На запытаньне, у якой меры праведзены ў жыцьцё „языковыя законы“ і ці ўжо істнуюць якіясь рэзультаты іх прыняцьця Соймам, усеўладны і паўнамоцны „другі прэм'ер“, адзін з 2-х абдораных найвышэйшай уладай у Рэспубліцы „консулаў“ з зусім неспадзяванай скромнасьцю адказаў літэральна так: —

„**Законы гэтыя, на жаль, да гэтай пары яшчэ не праведзены ў жыцьцё.**

„У сучасны мамэнт я займаюся ўзгадненьнем паглядаў паміж мной і... Міністэрствам Асьветы ў справе выканаўчага распараджэньня да закону аб мяшаных (польска-беларускіх) школах. Простая рэч (о, нават вельмі простая!..), што ці мяшаныя, ці беларускія школы—з прычыны спазьненьня — могуць адчыняцца **толькі з будучага школьнага году**.

„У студні мае быць уведзены беларускі язык, як прадмет навукі, у... аднэй (?) з віленскіх сэмінарыяў. (?).

„У тым-жа месяцы маюць быць адчынены курсы для вучыцялёў-беларусаў — на жаль — у **Быдгошчы**... (гэта ў Пазнані!!)

„Я лічу гэта дрэнным памыслам“.

„Мяне запэўняюць, што ў Вільні абсалютна няма адпаведнага памяшчэньня для таго, каб адчыніць гэтыя курсы,—няма ўжо, як калісь было, і ў Кракаве.

Што датычыць правядзеньня законаў аб мовах у школе (прыватнай?) і адміністрацыі, дык, зразумела (!), няма ў карыстаньні імі ніякай праўнай (бо-ж закон на паперы ёсьць!!.) перашкоды (а фактычнай?), а тыя ўсе **ўтрудненьні, якія зьмешчаны ў „выканаўчым распараджэньні“** да законаў, п. міністар абяцуе „**старацца** зьмяніць так, **каб яно адпавядала духу законаў**“...

У канцы, маючы вельмі мала вольнага часу, п. міністар заявіў, што „ў найбліжэйшым часе „wejdzie na warsztat“ (?) справа наданьня права абыватэльства найшырэйшым слоям „крэсавага“ насяленьня, „справа адбудаваньня зруйнаванай вёскі ў так-званым „пасе Гіндэнбурга“ і—крэдытнае дапамогі ўбогаму насяленьню ўсходніх земляў“,—ды яшчэ цэлы рад драбнейшых мераў, якія п. міністар назваў у свой час „**малымі** крокамі“,— якімі ён хацеў-бы ісьці да ажыцьцяўленьня **вялікай** мэты: „згоднага сужыцьця народаў Польскай Рэчыпаспалітай...

---

Гэтыя рэвэляцыі ўсеўладнага „міністра для Усходніх Крэсаў“ — настолькі красамоўны, што нам запраўды няма што да іх дадаваць.

---

Ня можна скрыць, дый ня трэба скрываць, што беларускі народ толькі пачаў выходзіць з дзіцячага пэрыяду свайго разьвіцьця, — толькі пачаў арганічна гуртавацца ў нацыянальнае грамадзянства. Дык усе супярэчнасьці і небясьпекі выхаду яго з пэрыяду і тыпу „перавагі грамады“ ў форму перавагі адзінкі найбольш пагражаюць яму цяпер. Маючы наагул больш заходнюю псыхіку з нахілам да перавагі адзінкі, беларускі народ разрэзаны цяпер на дзьве няроўныя часьці, у якіх, ня кажучы аб чым іншым, пануюць прынцыпова розныя ўплывы **заходняга і ўсходняга** тыпу...

Вялікая **перавага грамады**, якая пануе на ўсходзе, паволі, але няўхільна, пад націскам насьпяваючага да грамадзянства народу, замяняючы... „бацькоў“ на Бацькаўшчыну,—вырашае там сацыяльную праблему адраджэньня, стварае для яго найшырэйшы грунт—сацыяльна і нацыянальна незалежнага сялянства.

Там на Ўсходзе адзінным актам, выбухам рэвалюцыі—усё быццам атрымана адразу, дарма.

У нас на Захадзе быццам адабрана ўсё,—і ўсё трэба здабыць сабе нанова — змаганьнем, барацьбой...

Здаровы жыцьцёвы аптымізм неперарможнай чалавечай энэргіі, раздзьмуханай у нас вялікім парывам Адраджэньня, скажа нам, што, ня сёньня, дык заўтра, і мы будзем мець усё тое, што маюць нашыя ўсходнія браты, але мы цяжэй запрацуем нашае шчасьце, купімо яго толькі—**даражэйшай цаной**.

Можа, з нашага пункту гледжаньня, зьмест і сэнс нашага жыцьця ў Заходняй Беларусі — ў тым, што, пакуль там будуецца для будучай Вялікай Беларусі шырокі—сацыяльна-народны фундамант грамады, у нас, на Захадзе,—у страшэнна цяжкіх варунках барацьбы за істнаваньне, — будзе індывідуальная моц **гераічна-неперамножнае адзінкі.**

**М.**

## Заграніцай.

### Сэнсацыйная вестка з ССРР.

У газэту „Сегодня“ пішуць з Масквы, што на 3 студня гэтага году назначана там, па загаду Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, спэцыяльная „нарада аб справах дзяржаўнай будовы Радаў“.

На гэтую „нараду“, маючую гэткі скромны назоў, узложана вельмі важная задача: „разгляд усіх пытаньняў, маючых мэтай паляпшэньне спраўнасьці радаў, як органаў улады“.

У матывіроўцы праекту аўтары яго тлумачаць выклікаўшыя яго прычыны, яго зьмест і мэты.

Цэнтральны Вык. Камітэт Радаў лічыць, што настаў мамэнт „больш шырока прыцягаць беспартыйных работнікаў, сялян і працоўных жанчын (!) да радавай работы, высоўваць іх на адказныя становішчы, ажыўляць працу радаў. А дзеля ўсяго гэтага неабходна перабудова паасобных радавых органаў“.

У перадавой стацьці газ. „Известия“ тлумачыць гэтыя рэформы „ўзростам палітычнай актыўнасьці працоўных масаў і імкненьнем шырокіх беспартыйных масаў насяленьня да актыўнага ўчасьця ў радавым будаваньні краю“.

У кожным выпадку трэба аднолькава лічыць добрай праявай і прывітаць — як узрост палітычнай актыўнасьці шырокіх беспартыйных працоўных масаў насяленьня, таксама і ўсе тыя палітычныя рэформы, якія ідуць насустрэчу гэтаму ўзросту і гэтаму ўсенароднаму імкненьню да дзяржаўнага жыцьця.

### Уваскрашэньне врангелеўскай арміі.

Баўгарская казённая прэса паведамляе, што на нарадах Цанкова (баўгарскі прэм'ер) з Пашычам (югаслаўскі прэм'ер) пастаноўлена рэарганізаваць армію ген. Врангеля, каб зрабіць яе здатнай да бою...

Пастаноўлена таксама... мабілізаваць расейскіх казакаў (?!). Паднята справа мабілізацыі ўсіх расейскіх эмігрантаў у балканскіх дзяржавах.

„Процібальшавіцкі фронт“ пачынае працаваць нанова.

# Дмітро Дорошэнко.

*(К 25-летняму юбілею яго працы).*

16 сьнежня ў Празе адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне—25-леньця літэратурнае і навуковае працы Дмітра Іванавіча Дорошэнка, украінскага прафэсара і былага міністра Украінскае Народнае Рэспублікі.

Ня нам ацэніваць ягоную працу і заслугі перад роднай яму Украінай: гэта ўжо зрабіла само ўкраінскае грамадзянства. Мы хочам тут адзначыць толькі адзін мамэнт у працы юбіляра: ягоныя **адносіны да беларусаў**.

Сярод украінскага грамадзянства, ад мамэнту першых праяваў нацыянальнага адраджэньня ў беларусаў, выяўлялася вялікая цікавасьць і спогад да беларускае справы. Яшчэ ў 80-ых гадох вядомы ўкраінскі рэвалюцыянер Драгоманів перакладае і друкуе пабеларуску першую беларускую рэвалюцыйную брашуру („Пра беднась ды багацтва“, Жэнева, 1881 г.). А ў меру таго, як наш адраджэнскі рух крапчэе і набірае больш арганізованасьці, у ўкраінскіх часопісях зьяўляюцца ўсё часьцей стацьці аб беларусах, ды ўрэшце выходзяць асобныя кніжачкі. Блізу аднасчасна і зусім незалежна адна ад аднае ў 1908 годзе выходзяць дзьве ўкраінскія кніжкі аб беларускім руху: адна — у Львове („Відроженэ білоруського пісьменства“), другая — у Кіеве („Білорусы і іх національне відроженэ“). Першую напісаў д-р Іларыон Сьвятыцький, другую — паважаны юбіляр.

Кніжка Дорошэнкі прадстаўляе кароткі нарыс гісторыі беларускага народу і імкнецца вытлумачыць прычыны і абставіны, прабудзіўшыя беларусаў зо'-сну. Яна дае невялікі агляд творчасьці некаторых нашых старэйшых паэтаў — Марцінкевіча, Вярыгі-Дарэўскага, а з маладзейшых — толькі-што йшчэ выступіўшага тады на беларускую арэну Янкі Купалы.

Сваей кніжкай Дорошэнко шмат дапамог пашырэньню цікавасьці да братняга беларускага народу сярод украінцаў, а асабістымі зносінамі з беларускімі дзеячамі пад-час сваіх летніх прыездаў у Вільню (перад сусьветнай вайной) асабіста замацаваў шчырыя адносіны паміж правадырамі абодвух народаў. І ня раз голас Дмітра Іванавіча можна было спаткаць у розных часопісях — у абароне беларусаў.

Ажно прыйшоў час, калі Украіна вызвалілася спад улады маскоўскіх цароў і распачала самастойнае дзяржаўнае будаўніцтва, шмат апярэдзіўшы ў гэтым Беларусь. І вось, мы сустракаемся з Дмітрам Іванавічам, ужо як з міністрам заграпічных справаў Украінскае Народнае Рэспублікі. І тутака ён на дзеле выяўляе ўсю сваю прыхільнасьць да беларусаў, чым мага, стараючыся падтрымаць беларускае дзяржаўнае будаўніцтва. Калі-ж — з пераменай палітычнага палажэньня — Дорошэнко апынуўся на эміграцыі (ў Празе), беларуская моладзь і тут сустрэла ў ім шчырага прыяцеля.

Шчыры прывет шлем мы паважанаму юбіляру, давёўшаму сваімі паступкамі, што на такіх прыяцеляў беларусы могуць заўсёды спадзявацца.

**Ант. Навіна.**

---

### Да „суполнага фронту“.

Яшчэ так нядаўна Румынія была зусім пакінута вялікімі дзяржавамі (можа, апрача Францыі толькі) ў сваей барацьбе з ССРР... Яе падтрымлівала толькі Польшча.

Цяпер становішча яе рэзка зьмянілася пад уплывам лёзунгу „супольнага фронту проці ССРР. Англія занялася арганізацыяй паветранага флёту Румыніі; Італія ахвяравалася рэарганізаваць яе марскі флёт.

Так пішуць маскоўскія „Известия“.

Зразумела, што за ўсе гэтыя „ахвяры“ і Англія і Італія зьдзяруць з Румыніі розныя „эканамічныя ўступкі“, карыстаючыся яе „бэсарабскім страхам“.

### Нота саюзьнікаў Нямеччыне.

Нота Рады паслоў—у справе прадоўжаньня акупацыі Кельну, зьняцьце якой 10/I 1925 г. прадбачана ў Вэрсальскім трактаце, яшчэ ня выслана нямецкаму ўраду. Мо' яе затрымалі, з прычыны таго неапісанага абурэньня, якое выклікала ў Нямеччыне вестка, што саюзьнікі, карыстаючыся няслушна павялічанымі даннымі кантрольнае камісіі аб нямецкіх збраеньнях, маняцца самі нарушыць Вэрсальскі Трактат. З другога боку, паміж францыяй і Англіяй не дайшло да згоды ў справе рэдакцыі ноты: Англія ня хоча пазывацца на рапарт кантрольнай камісіі, пакуль ён не прадстаўлены афіцыяльна ўрадам.

### Заява мін. Штрэзэмана.

У сувязі з абурэньнем у Нямеччыне, з прычыны прадоўжаньня акупацыі Кельну, міністар загр. спраў (будучы прэм'ер), Штрэзэман, зрабіў журналістам вельмі важную заяву.

„Плян Доўса“ быў надуманы і можа быць зьдзейсьнены толькі ў сувязі з паступовай эвакуацыяй акупаваных абшараў Нямеччыны. Калі эвакуацыя будзе адложана, гэтым ня толькі спыняецца абавязак і магчымасьць выпаўненьня пляну Доўса, але і кампраміцуецца ў вачох нямецкага народу ўся палітыка паразуменьня і выкананьня ўмоваў з саюзьнікамі. І калі гэтая палітыка давяла ўжо да вельмі важных рэзультатаў, як спыненьне рэвалюцыйнага руху ў краі, дык яе банкруцтва цяпер можа выклікаць ізноў гэты рух, і палажэньне ўгадовага ўраду можа стацца крытычным. Што датычыць быццам-то страшэнных нарушэньняў трактату, выкрытых Кантрольнай Камісіяй, дык аб іх урад ня ведае нічога. Ніякіх перашкодаў камісіі нямецкія ўлады не рабілі, бо камісія зусім не зьвярталася да ўраду з скаргамі на гэта.

